№ 3—4. КОШТ 4 АЎКС.

# ЧАСОПІСЬ

## МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

УРАДОВЫЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНЯ.—СТАТУТЫ І ПРАЕКТЫ.—ВАЕННЫЯ АБГЛЯДЫ.—БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА.—ГІСТАРЫЧНЫЯ МАТЭР'ЯЛЫ.—КРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ.



Нашэ слаўнае ГОРОДНО—другая Вітаўтава сталіца.

Заложэна, як гаворачь летапісцы—чы у 983, чы 1038 гадох у час походаў на ятвягаў украінскіх князёў Владзімера Сьвятога і Ярослава Мудрага. Гісторыя гэтага старэйшага беларускага места - гэта яскравы шлях барацьбы беларусоў за свабоду. Ад красавіка 1919 году Городно захоплено палякамі. Як Городно, так і Нёман, над якім гэтае места пабудована, не раз апевалі нашыя песьняры.

ГОРОДНО.

...Пад тваім крывавым брукам
Спяць-татарын, швэд і лях...
Не гаруй! З вясеньнім гукам
Страсянеш ты польскі жах!

А. Сарасек.

НЁМАН.

...Ты цячэш далёка, знаю,
Ў землі жмўдзі і немцоў...
Раскажы ж чужому краю
Пра жыцьцё тваіх сыноў!..

Я. Колас.

КОЎНА.
Лістапад-Снежэнь,
1919.




## ...МЕСТ № 3-4 „ЧАСОПІСІ“:

ТЭКСТ.


. . . . . . . . . . . Стр. 1—2.
...ьця праф. В. Смолко . . . . . . . „ 2—5.
... 1920 году. Короткі абгляд Я. В—ко . . . . „ 5—13.
...VI СТАЛЕЦЬЦЯ АНДРЭЙ РЫМША. Стацьця праф.
. . . . . . . . . . . . . „ 6—8.
...ВД. Стацья Т. Л—овіча . . . . . . . „ 13—14.
...ЫЦЬЦЁ: „Дзьве сьмерці“, „Да Бацькаўшчыны“, Правы чле-
...ы . . . . . . . . . . . . „ 14—16.
. . . . . . . . . . . . „ 16.


АПРОЧ ТАГО 14 ІЛЮСТРАЦЫЯЎ.

## У чарговым № 5 „Часопісі“

будуць надрукаваны стацьці: праф. Э. Карскага, праф. Э. Вольтэра, В. Ластоўскага, Я. Варонко, Т. Лагвіновіча і ішн.; зьмест гэтых стацей закране такія пытаньня: старую баларускую пісьменнасьць, астаткі літоўскіх племёнаў у Городзеншчыне, выбары ў Установчы Сойм Літвы, рэлігійную унію і інш. Апроч таго будуць надрукаваны ілюстрацыі: Васіля Цяпінскага, паэта Зьмітра Бядулі, Галоўнакамандуючага Літоўскай Арміі, Камандзера 1-шага Городзенскага беларускага поўка М. Антонава, Міністраў: Справядлівасьці Л. Нарэйко, Ўнутрэных Спраў д-ра Э. Драўгеліса, загранічных прэдстаўнікоў у Коўні і інш.

## Шыкуюцца да друку новыя кнігі:

**1. „Беларусь ад Керэнскага да Пілсуцкага“. 2. Беларусь у мінуушчыне і сучаснасьці. 3. Літоускае Гаспадарства і беларусы. 4. 1-шы Усебеларускі Зьезд. 5. Літоускі Статут. 6. Як стварыуся Беларускі Урад? 7. Літоускія Дзержаўныя Вехі. 8. Беларусь і Украіна.**

**КОЎНА. Лістапад-Снежэнь, 1919 году. № 3—4.**



# ЧАСОПІСЬ

## МІНІСТЭРСТВА БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

УРАДОВЫЯ ПАВЕДАМЛЕНЬНЯ.—СТАТУТЫ І ПРАЕКТЫ.—ВАЕННЫЯ АБГЛЯДЫ.—БЕЛАРУСКАЕ ПІСЬМЕНСТВА.—ГІСТАРЫЧНЫЯ МАТЭР'ЯЛЫ.—КРОНІКА БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ.

## Нашым ваякам.

**Вершы** **Алеся Гаруна.**



АЛЕСЬ ГАРУН
(А. В. Пруш**ы**нскі).
Выдатнейшы беларускі песьняр. Радзіўся у 1887 г. ў Навагрудчыне. За учасьце у першай расейскай рэвалюцыі ў 1905-06 г. г. адбыў палітычную ссылку ў Сыбэрыі, скуль вярнуўся толькі у 1917 гаду. Аўтар кнігі „Матчын Дар", выданай Беларускім Урадам у Менску.

☩

### Трохлінейка - магазынка.

То ня дудка мая,
Не жалейка,-
Гэта стрэльба мая-
Трохлінейка.
Бараніла мяне
Даглядала,
На сваёй старане
Пільнавала.
Я ў астрозе сядзеў
Прад вайною,
Бо свабоды хацеў,
Ды з зямлёю,

Сабіраўся ўцячы,-
Ні ўдалося,-
Магазынак... сваіх
Ні знайшлося.
Па астрозе папаў
Я ў войска,
Навучалі мяне
Тут па-свойску:
Мала костак усіх
Не зламалі,
Трохлінейку за то
Даравалі.

З ёй цяпер я ўжо
Ні расстаўся
І свабоды пры ёй
Дачакаўся.
Ну, пацеха мая,
Журавінка,
Трохлінейка мая-
Магазынка.

Мы цяпер зажывем
Па другому,-
Ні падданы чарту
Ніякому;
Будзем мы ваяваць
Для народу,
Бараніці наш край
Ї свабоду...

◎ ◎

## Паходная.

Загрымелі ў барабаны,
Заігралі ў трубы,-
Раскаціўся грукат грому
Чалавечай згубы.
Закурылася дарога,
Заіржалі коні,
Праваджала маці сына
Па зялёнай блоні.
Залівалася сьлязамі,
Каля стрэмя йдучы:
„Завісаюць над табою,
„Галубок мой, тучы...
„Загнятуць цябе марозы,
„Мой пякнюткі квеце,
„Астануся я зязюлькай,
„Сірацінкай ў сьвеце..."
Пацешаў яе хлапчына:
„Супакойся, мама,
„Ні на векі ты за мною
„Зачыніла браму.
„Яшчэ будзе вараненькі
„Капыцікам біці:
—Выйдзі, выйдзі гаспадыня
—Сыночку адкрыці! ..
„Яшчэ будзе вараненькі
„Весяло іржаці:
—Выйдзі, выйдзі гаспадыня
—Сыночка ўстрачаці!—"

◎ ◎

# Беларускія ідэалы.

СТАЦЬЦЯ.

Беларускі палітычны рух яшчэ тры гады таму назад быў далёка адстаўшым ад нацыянальнага і лездь—ледзь прасовываўся праз шчэлюбінкі расейскага царызму на белы сьвет. Развал грамадзянской еднасьці ў Расеі дапамог яму запаліцца яскравым полымем на раніцы петраградкай рэвалюцыі і дагнаць росквіт беларускага нацыянальнага адраджэньня, як раз у той момэнт, калі ад беларускага народу жыцьцё запытала ясна і голасна:

— Скажы, беларускі народзе, чаго ты сабе жадаеш?

Цяжкія сталецьця няволі спачатку пад Польшчай, а потым і пад Расеяй, цёмнасьць і прыніжаннасьць беларуса не далі яму магчымасьці узмацаваць свае думкі і жаданьня і выпрацаваць у сябе нагэты час ясны сьветагляд. Таму і адказ на запытаньня жыцьця беларус не мог даць адразу і коротка. Ён адказываў доўга, блізка праз ўвесь чырвоны 1917 год сваёй простай мовай, словы якой злажылі з сябе пекны абраз беларускіх ідэалаў.

Гэта было на Ї-шым Ўсебеларускім Зьезьдзі беларускага народу ў Менску два гады таму назад.

Народ беларускі, некалі гаспадар большасьці былога Вялікага Князьства Літоўска - Беларускага, паслаўшы на гэтае народнае ве-

ча сваіх прэдстаўнікоў з ўсіх кутоў сваёй роднай зямлі, ясна сабе давай справаздачу, чаму гэта ад яго пытаюцца аб яго жаданьнях, чаму яго склікалі на такі вялізарны сход.

Цяжкі ўціск праз трыста гадоў, голад і бэззямельле у вёсцэ, прыгнэмбеннае жыцьцё па местах, бэзупынная вайна на беларускай зямлі, надыходзячы раздел бацькаўшчыны паміж дужэйшымі суседзямі, імпэрыялізм расейскае рэвалюцыі — ўсё навакол прасьвеціла беларускага бедака хучэй і лепш, ніж „агульнае абучэньё“ і расейска-польскія амбоны.

— Хачу сам кіраваць сваёй зямлёй, хачу сам на ёй гаспадарыць бэз чужой апекі і дагляду!—

— Хачу гаварыць на сваёй роднай мове, каб абыйсьціса бэз моў маіх трохсотлетніх катаў!

— Хачу ізноў падняцца на ногі, зраўняцца з ўсімі народамі сьвету і быць дзяржаўцай свайго лёсу...! —

Такія лёзунгі пачалі выстаўляць народныя прэдстаўнікі крывіцкай, дрэговіцкай і былой ятвяжскай зямель, абернуўшы іх на 1-ым Ўсебеларускім Зьездзі у, так званыя, „рэзалюцыі“ Зьезду, у якіх ужэ кожэн мог прачытаць, аб чым хлапочэ беларус.



ГРАМАДА БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКІХ ДЗЕЯЧОЎ у ГОРОДНІ

(у лютым 1919 году).

У першым раду: Былы Начальнік Канцэлярыі М. Б. Спраў—П. Крэчэўскі, Член Літоўскай Дзержаўнай Рады прот. І. Корчынскі, Міністэр Беларускіх Спраў — Я. Варонко, Упоўнаважнены Літоўскага Ўраду — А. Жылінскі, Старшыня Городзенскай Беларускай Ўправы Э. Курлоў (†), Старшыня Городзенскай Камісыі дзеля рэгістрацыі страт ад вайны — А. Озʼнобішын.

У другом раду: палкоўнік К. Езавітаў, афіцэр Літоўскага Штабу — Б. Гедрайтіс, беларускі афіцэр К. Шчэрба-Равіч, Сэкрэтар Літоўскага Упоўнаважненага — С. Лазарайтіс, Член Дзержаўнай Рады д-р К. Белецкі, затым трэці — Член Городзенскай Б. Управы — В. Боеў, Тэхнічны Сэкрэтар М. Б. Спраў—інжэнер Е. Кургановіч, б. Камандзер 1-шага Беларускага поўка — М. Лаўрэнцьеў і інш.

Аб ўласнай ўладзе! Каб не было больш чужынцоў, кіруючых беларускім жыцьцём. Каб свае людзі стаялі на чале управы краем. Каб беларуская старонка сама, як ядынае цела, магла гаварыць з суседзямі самастойна праз сваіх жа людзей.

З такога погляду выходзіць і выйшла ідэя аднаўленньня свайго былога дзяржаўнага быту, свайго государства.

Аб сваёй душы! Каб свая, наша родная „простая“ бацькауская мова, мова „Літоўскага Статуту“—стала першай сярод роўных, каб народ праз яе атрымовываў сьвет і будаваў сваё ўласнае культурнае жыцьцё.

З гэтуль ясны нацыянальны светагляд і абарона своёй культуры і старасьвеччыны.

Абсваім сацыяльным жыцьці! Пазбавіць польскіх феадалаў, захапіўшых у часы панярверства над беларускім народам усе магутнейшыя абшары беларускай зямлі ў свае ненасытныя пальцы, іх маёнткаў.

З такога заданьня выходзіць яшчэ адна нацыянальная справа—зварочэньня зямлі яе прыроднаму мазольнаму гаспадару.

Вернуць родную мову і бацькаўскую зямлю!

Аб сваіх суседях! Тут беларус паказаў свае правы на саваё дабро і права вартаваньня сваіх седзіб.

Вэрнуць бежэнцаў, надзяліць іх за страты, адбудаваць разруйнованыя вёскі і месты!

Гэта адносіласа да недаўнага ўладара, які спаліў добрую палову Беларусі, разагнаў яе сыноў по ўсім ўсходнім абшары і уставіў бежэнскімі могілкамі „шлях мучаннікоў“ аж да холоднай Тайгі, чы гарачага Туркестану.

Вывесьці польскія легіоны з беларускай зямлі, чы пазбавіць іх аружжа!

Каб паны не здзеківаліса над беларускімі селянамі падмогай сваіх легіонаў за „крыўды“ якія гэным панам нанясли тамбоўскія, чы маскоўскія „фронтавікі“.

Каб ня было другой чужацкай, гэта значыць, польскай сілы ў межах непольскіх абшараў. Каб ізноў не папасці з вагню ў полымя, у абняцьця закаханай у Беларусь Рэчы Польскай „Паспалітай“.

Такі шлях будучыны акрэсьліў сабе беларус, маючы свабоду слова, не примушаны да гэтага н і к і м!

Н і х т о яго не палохаў, н і х т о яго не вучыў. Толькі калі ён, беларускі сермяжны бедак, выказаў сваю волю, толькі пасьля надлецелі крывава-чорныя душэгубы і разагналі адноўленнае беларускае ўсенароднае веча.

Дзеля развіцьця акресьленных ідэалаў—гэта не пашкодзіла!

Такім чынам осталося недагавораным адно пытаньне.

Гэта тое, што да апошняга часу не дае магчымасьці двум адвеку абьедналым народам, адрадзіўшымся праз вагонь і меч, выказаць погляды на адносіны паміж сабой.

Адносіны б е л а р у с о ў і літвіноў.

Народы, меўшыя да свайго занепаду адну супольную дзержаву, адны і тыя пачаткі сваёй самабытнай культуры, аднэ эканамічныя і сацыяльныя абставіны, не зьменіўшыяся да гэтага часу,—у момэнт найпаважнейшы ў сваёй гісторыі стаяць адзін да другога плечыма, так як бы не ведаючы, што жывучь бок-о-бок, як жылі праз тысячу гадоў.

Развязаньне гэтага заданьня, — а ласьне, устаноўленьне ясных і канечных адносін паміж ўсходам і заходам аднэй і тэй жа прыроднай эканамічнай єдынкі, дало бы магчымасьць ствараць ядыны фронт проці агульнага ворага, як ў напрамку Масквы, так і тут проці адвечнага ласуна на беларуска-польскія землі—польскага пана.

Гэты апошні цяпер робіць усе заходы, каб разбіць на две воражныя адна да другой часткі—землі былога Вялікага Князьства Літоўскага. Апроч таго, і часьць літоўскіх палітыкаў —альбо „не ведаючы, што робяць“, альбо у гарачцы свайго нацыянальнага шовінізму, выбіраючыя паміж розумам і языком, на жаль, апошняе, так сама проводзяць на ўсходзэі сучаснага Літоўскага Гаспадарства дубэльтовы кітайскі мур.

Выходзячы з вышэй акрэсьленных беларускіх жаданьняў і добра пазнаўшы на фактах, як ўладу ўсіх расейскіх царскіх і „народных“ урадаў, так і панаваньне сучаснага польскага „дэмакратычнага“ камісара, прыходзіцца мець на думцы, што такі кітайскі мур можэ стаць магільнай плітой незалежнасьці літоускага народу.

Большэсьць (калі не усе!) палітыкаў будуемай на ўскодзі ў межах Вітаўтавай „Літвы“ —Беларускай Народнай Рэспублікі, што дня ўзмацовываючай свае палажэньне—ніколі не пакідала думкі аб хаўрусе з намі, а калі да гэтага яшчэ далучыць, у тэй чы іншэй зьвязі, незалежныя — Латвію і Эстонію, а на поўдні Украіну, то такі букет незалежных народаў стаў бы моцным барьерам і ад кремлеўскіх апрычнікаў і ад панскіх конюхаў з пляцу Сьвятога Зыгмунта з Варшавы, маючы усё сваё, што трэба ў гаспадарстві, сваю прамысловасьць і запасы сырога матэрыялу, маючы сваю эўропейскую лесную Канаду (Беларусь), свае мора (Балтыку ў Літве, Латвіі і Эстоніі і Чорнае мора на Украіне), свой вялікі водны шлях „з варагаў у грэкі“ (Нёман, Дзьвіну, Прыпяць, Днепро)...

Мы не будзем заглядаць ўпярод, далей, што можэ даць нам паразуменьне з вышэй

памянёнымі суседзямі. Адно толькі можэм сказаць, што пакуль мы дачэкаемся новага развалу новай Польшчы, яна многа гора нам яшчэ прынясе.

Вельмі жаль, што паляка-дзяржаўцу не навучылі нічога цяжкія часы мінуўшчыны: наадварот, ён далёка перэгнаў царскага жандарма і мураўёўскага „усьмірыцеля“.

А гэта яшчэ болей гаворыць за тое, што незалежная Літва не павінна адгаражывацца калючымі дротамі ад беларускага народу, ідэалы якога дасягаюць тэйжэ вольнай будучыны, як і ідэалы літвіна.

Праф. В. СМОЛКО.

## БЕЛАРУСКІ РУХ.

### ад 1917 да 1920 году.

Кароткі абгляд.

I.

Петраградзкі перэварот 27 лютага 1917 году, вядомы пад назвай „фэвральскай рэвалюцыі“, дадаў да нацыянальнага руху ўсіх народаў, населяўшых былую Расею яшчэ і востра палітычны выгляд.

Як і украіцы, палякі, латышэ, літвіны, -ўсюды беларусы сталі арганізавацца ў палітычныя абьеднаньня і ўжэ ў сакавіку таго ж году склікалі ў Менску першы зьезд беларускіх нацыянальных і палітычных дзеячоў.

Часовы Расейскі „Рэвалюцыйны“ Ўрад, аслабаніўшы старонку ад царызму, не змог сам усьцерагчыся, каб не захварэць царскай палітыкай і доўга на знайходзіў тых срэцтваў, якія выбавілі бы Расею ад развалу. Расейскія Габінэты князя Э. Львова і А. Керэнскага за ўвесь час рэвалюцыі ад лютага да кастрычніка 1917 году паказалі сваю поўную несьвядомасьць у нацыянальных пытаньнях і гэтым самым дапамаглі самачыннасьцы паўстаючых ўсюды апазыцыйных нацыянальных арганізацый, у тым ліку і беларускіх.

Народ левеў ва ўсіх пытаньнях. Арганізаваны на першым беларускім зьездзі ў сакавіку-Беларускі Нацыянальны Камітэт у летку 1917 году павінен быў уступіць свае права на абьеднаньне ўсяго беларускага народу заменіўшай Камітэт—Цэнтральнай Радзе Беларускіх Арганізацый і Партый, перэважываючае палажэньне ў якой заняла старэйшая, спраўляўшая тады 20-цілецьце свайго істнаваньня-Беларуская Сацыялістычная Грамада.

У гэты час, як ў краі, так і на фронці,-ўсюды шпарка сталі расьці беларускія арганізацыі, у большай сваёй часьці-палітычныя, а так сама і прафэсыянальныя, культурна—прасьветныя, бежэнскія і іншыя.

Менск стаў цэнтрам беларускай палітычнай работы. Ад яго не адставалі беларускія арганізацыі Петраграду і Масквы: у першым знайходзіўся Цэнтральны Камітэт Беларускай Сацыялістычнай Грамады, Беларускае Таварыства помачы пацярпеўшым ад вайны, Беларускае Прадстаўніцтва ў Асобай



**СТАНІСЛАЎ ШЫЛІНГАС.**

Старшыня Дзержаўнай Рады Літвы.

Радзіўся ў Вільні ў 1885 гаду, юрыст,-скончыў Маскоўскі Унівэрсытэт, адкуль і пачаў неустанна працаваць у літоўскіх арганізацыях. У першы пэрыяд Расейскай Рэвалюцыі працаваў у Расеі; ў 1918 гаду перэехаў у Вільню, дзе быў выбраны Таварышам Старшыні Дзержаўнай Рады, а ў 1919 гаду, пасьля выбараў Прэзыдэнта, і Старшынёй.

Да 1919 году быў адным з лідэраў партыі „Сантара“, цяпер непартыйны; выдатны красамоўца і публіцыст.

Нарадзе дзеля апрацаваньня Закона аб выбарах да Ўсерасейскага Устаноўчага Сбору; у Маскве рабіла шырокую працу многатысячная па ліку сваіх членаў бежэнская арганізацыя непалітычнага характэру Беларуская Народная Грамада, якую падтрымлівалі, як сацыялісты, так і Хаўрус беларускага праваслаўнага духавенства.

Зразумела, што нацыянальная праца кіпела ў раёні вольнай ад нямецкай акупацыі беларускай тэрыторыі, а ласьне, у такіх местох, як Полацк,

Вітэбск, Смаленск, Магілеў, Бабруйск, Слуцк, якія былі зьвязаны, як са сваім цэнтрам,—ўсе з Менскам.

Параскіданыя праз вайну па ўсім абшары былой Расеі беларусы з кожным днём усё галасьней і ясьней давалі аб сабе знаць.

Асабліва беларуская праца стала шпарка ўзмацовываца пасьля выступленьня белорусоў на Маскоўскай Дзержаўнай Нарадзе, а затым на Петраграцкай Дэмакратычнай Нарадзе, скуткам якіх было устанаўленьне Часовай Рады Расейскай Рэспублікі (куды так сама папалі і беларусы), якая заменіла сабою аджыўшую свой час сталыпінскую Гасударственную Думу.

Аднэй з найболей патрэбнейшых і жыцьцёвых праяў нацыянальнага руху наагул—была арганізацыя нацыянальных войскаў, як украінскіх, польскіх, чы латышскіх. На арганізацыю іх тагочасны начальнік ўсёй Расеі А. Керэнскі даў сваю высокую згоду. Беларусы ж, не гледзючы на іх настойчывыя хлапоты, не атрымалі ад „Глаўкаверха Керэнскага“ нават права на арганізацыю беларусоў—ваеных у землячэства.

У канцы верасьня беларусы такі папрабавалі ўзяць гэтае права рэвалюцыйным шляхам. Беларускія арганізацыі Заходняга Фронту, асабліва 10-ай арміі, якая стаяла ў Меншчыне, склікалі ў кастрычніку Зьезд Заходняга Фронту ў Менску, на якім залажылі фундамэнт дзеля утварэньня Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Рады.

На гэты ж час і Цэнтральная Рада Беларускіх Агранізацый і Партый у Менску, дасягнуўшая



**ЮСТЫН ЗУБРЫЦКІ.**
Дзержаўны Кантралёр.

Радзіўся ў Сувалшчыне ў 1869 гаду, юрыст (Пецябурскага Унівэрсытэту); да назначэньня Д. К.—быў Дырэктарам Літоўскага Таргова-Прамысловага Банку і вядомы як супрацоўнік часопісей: „Šaltinis“, „Vilniaus Žinios“, „Tiesos Kardas“ і інш. Перэконаны вораг партыйнасьці; на пасадзі Д. К.—ад 23 лютага 1919 г., выбраны Д. Радай (Тарыбай).

## БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕННІК XVI СТАЛЕЦЬЦЯ АНДРЭЙ РЫМША.

(Да гісторыі беларускай літэратуры).

Біяграфічныя ведамамасьці аб Андрэю Рымшы можна знайці у яго польскіх творах, напрыклад, Chorographia 1595 г., гдзе аўтар называе сябе літвіном, слугою Хр. Радзівіла. На даўнейшым беларускім языку*), на каторым гаварыў Рымша, як і ўсе адукаваныя літоўцы таго часу, ён напісаў гэткія творы:

Вершаваную Кронолёгію ў 1581 г., адзіны экзэмпляр каторай, надрукованы ў м. Астрозе, пераховываецца ў Пецярбурскай Публічнай Бібліотэцы. Вось гэты верш:

Месеца сентебра по гебрейску еюль просто
вресень.
Двадъцать четвертого дня месеца сенътебра
дороблен ъ еросолимъ сталася речъ добра.
Месеца октовріа по гебреиску тышри просто
паздерникъ.
Арха з ноимъ на горе станула на суши,
другіи потопъ не будет так намъ письмо туши...
Месеца ноемвріа по гебреиску марге усам, просто
грудень.
Жидомъ свято уставилъ тутъ царь еровоам,
мы о свои недбаемъ, не велмижъ добро намъ...
Месеца декавріа по гебреиску хашлеу просто просинецъ.
В том месецы іс хс народился нам,
нехто иныи тот избавилъ души самъ...
Месеца генуара, по гебреиску тебет, просто стычень.
Чужоземъскіе мудрѣцы ха привитали,
злато ладанъ и миру яко пану дали...
Месеца февраля по гебреиску себат, просто лютыи.
Смотри як то голубка ноаху служила.
мы о бога недбаем толькобъ злость плужила...
Месеца марта, по гебреиску адаръ, просто марецъ.
Въ томъ месецы господа жиды крыжовали,
собе лихо нам добро тымъ зьеднали...

*) Разумеецца, на кніжным таго часу, а не народным. „Ч“.

свайго найвялікшага ўплыву на беларускую дэмакрацію, прыняла назву Вялікай Беларускай Рады, мэтай якой стала ужэ прыгатаўленьне дзеля прыняцьця (калі не захопленьня) пры дапамозе Вайсковай Рады усёй ўлады на абшарах этнаграфічнай Беларусі*).

II

Палітыка Часовага Расейскага Ўраду, які парадзіла „фэвральская рэвалюцыя“, прывела да таго, што нагаворанныя бальшэвікамі пётраградзкія работнікі і салдаты ў канцы кастрычніка 1917 году скінулі Урад А. Керэнскага і „вагнем і мячом“ сталі заводзіць у Расеі новы лад, галавой якога стаў крывавейшы з усіх расейскіх ўладароў Леў Троцкі.

Не гледзючы на шырокія абецанкі і „дэкрэты“ аб правох нацыянальнасьцяў новага Расейскага „Сацыялістычнага“ Ураду і яго Народных Камісараў, беларусы нічога не дабіліся і цяпер. Новая расейская дэмакрацыя, апранууўшыся ў чырвоную плахту, так званага, пролетарыяту, хварэла на тую ж імпэрыялістычную хваробу, на якую хварэлі і сам Раманаў і яго насьледнік Керэнскі. Зьменіўшы апошняга, новы „Глаўкаверерх Крыленка“, прымушэны лічыцца з фактам істнаваньня нацыянальных украінскіх і польскіх войскаў, — цягнуў з развязаньнем пытаньня аб дазваленьні беларусам фармаваць свае нацыянальныя часткі, затым прабаваў пра-

*) Ад гэтага момэнту Менск стаў звацца Менскам-Беларускім, як стаяла на выданай Вялікай Радай першай „Грамаце да народаў Беларусі“.



МІХАЛ СЛЕЖЭВІЧ.

Былы Старшыня Рады Міністраў Літвы —Прэмьер 2-га (ад 26.XII. 1918 г. да 12.III. 1919 г.) і 4-ага (ад 12.IV да 7.X. 1919 г.) Габінэтаў.
Адзін з лідэраў літоўскай партыі сацыялістаў-народнікаў; прысяжны адвакат і публіцыст.

Месеца априля, по гебреиску нисанъ просто кветень,
Жидове сухо прошли чирвоное море
кормилъ ихъ богъ на пущи не было имъ горе...
Месеца мая по гебреиску іяръ просто маи.
Нои арху готуетъ божимъ повеленіемъ,
абы въ потопъ не згинулъ зъ своимъ поколеніемъ...
Месеца іюня, по гебреиску сыванъ, просто чырвецъ
Ужо воды въсихъ топятъ ноах въ карабль вошолъ.
Знать ижъ богу кланялся, просто ласку знашолъ...
Месеца іюля, по гебреиску тамусъ, просто липецъ.
Моисіи побилъ таблицы зъ приказаньемъ божимъ
а мы грешимъ што часокъ, нися страхомъ трвожим...
Месеца августа, по гебреиску аовъ либо авъ, просто серпень
Въ том месецы ааронъ божіи ереи,
того себѣ наприкладъ ты попе зав жды меи...

Тут рытмованыя сілабічныя вершы разложаны па два пасьля кожнага абазначэньня месяца. Літэратурнае значэньне іх не вялікае, гэта скарэй вучнеўскі твор. Калі навэт лічыць яго, судзячы па апошняму радку і пікатораму знаемству аўтара з жыдоўскай мовай, творам вучыцеля, ён у кожным выпадку носіць характэр школьнай работы, а не навуковай. Нам гэты верш цікавы з другога боку: пры агульна прынятых жыдоўскіх назвах месяцаў тут ўсюды прыведзена і простанародная назва („просто“), цяпер ужо забытая. Ужываныя цяперашнімі беларускімі пісьменнікамі назвы месяцаў пазьнейшыя і далёка не заўсюды трапныя, і ў кожным разе, ня зусім зразумелыя. Ці ня лепш вярнуцца к даўнейшаму.

А. Рымшы належыць верш на гэрб Е. Валовіча ў зборніку 1585 г., надрукованым у віленскай друкарні Мамонічаў: „Генадія Патрыярха... діалог или самодруга розмова“. На адвароце загалоўнага лісту — гэрб і напіс: „На герб ясневельможнаго пана остафея

весьці праект утварэньня беларускай чырвонай арміі і ў скутку стаў забараняць і зачыняць беларускія вайсковыя арганізацыі наагул. Як ведама латышскія ваеныя часьці ў свой час адыгралі дзеля бальшэвіцкага рэжыму ролю свайго звычаю жандармска-казацкіх сотняў, пакуль іх не зьменілі кітайцы і башкіры

Для беларусоў - большэвізм спачатку быў незразумелым зьявішчэм, аднак ўзрост беларускай справы ад гэтага не спыніўся; наадварот, Вялікая Беларуская Рада, маючы на увазе моцна устаноўленную звязь яе з усімі беларускімі арганізацыямі (абы яны мелі выразна нацыянальны выгляд,) асабліва ваеннымі, якія былі утворэны блізка не на ўсіх франтах Цэнтральнай Беларускай Вайсковай Радай, пачула ў сабе даволі сіл, каб склікаць вялікі Беларускі Устаноўчы Зьезд.

Разагнаны перэд тым Ўсерасейскі Устаноўчы Збор, у выбарах ў які дзякуючы новай пролетарскай „свабодзі", беларусы поўнага учасьцця прыняць не маглі, даў повад беларусам падумаць аб сабе болей, ніж яны думалі да гэтай пары.

Беларускі Устаноўчы Зьезд пад імем 1-шага Ўсебеларускага Зьезду, скліканы быў Вялікай Беларускай Радай у сьнежню 1917 году і працаваў ад 5 да 18 числа ў Менску. На ім было прэдстаўлена 1900 чалавек прэдстаўнікаў земстваў, гарадоў, валасьцяў, хаўрусных крамаў, вучыцельскіх хаўрусоў, рожных прафэсыянальных арганізацый, культурна-прасьветных таварыстваў, палітычных партый,



**Францішк Довідайтіс.**

Радзіўся у 1886 гаду ў Марiямпольшчыне, адукацыю атрымаў у Маскоўскім Унівэрсытэце, вядомы літоўскі пэдагог, рэдактар паважнейшай часопісі „Lietuvos Mokykla".

Старэйшы член Дзержаўнай Рады, у сакавіку і красавіку 1919 г. быў Старшынёй Рады Міністраў (3-цяга Габінэту).

---

воловича, пана веленского и прочыхъ". На 2-гім лісьце:

Што двѣ стрѣлы,
Што врубы, што лелеи значат,
то вси люди мудрые вельми
гораздъ бачать.
Которыхъ зацныи тот дом
за гербъ уживаеть
Вѣръ мнѣ, ижъ тамъ господу, цнота свою маеть.

Нарэшце А. Рымша зьмесьціў эпіграму вершамі ў Літоўскім Статуце 1588 г. пад гэрбам падканцлера князьства Літоўскага, Льва Сапегі. Тут маецца апісаньне гэрбу і пажаданьне доўгага жыцьця Сапегам. Верш 13-складовы сілабічны, пачынаецца з агульнай развагі:

Въсе можемъ своимъ окомъ, лацно обачити,
Долъжыню и шырокость, шнуромъ позначати,
И человека можемъ, познати по твары,
Если въ сабе, не маеть лишнее прывары,
Але где цнота собе, обрала оселесть,
Тамъ ростропъе сть до всего, и мужьская смелость...

Пасьля апісаньня гэрбу і азнакі значэньня кожнага сімболу, выказваецца пажаданьне:

Живете жъ сапегове вси въ многие лета,
Ваша слава слыть будеть, покуль станетъ света,
Подавайте жъ потомъкомъ, што маете зъ предъковъ.
Ведже и вашихъ цныхъ справъ, въ весь светъ полонъ светковъ.

Абодва прыведзеныя вершы з нашага пагляду ня вельмі поэтычныя і навэт не зусім саўпадаюць з предстаўленьнем аб назначэньні паэты і поэзіі; але наш аўтар падлёг звычаю свайго веку, калі ўдыганьне перад вельможнымі прадстаўнікамі прасьветы, каторые давалі фундушы на друк, было дзелам звычайным. Але і цяперашнія нашыя пасьвяшчэньня ў кнігах, асабліва асобам высокапастаўленым, не далёка адышлі ад вершапісцаў XVI—XVII вякоў.

Праф. Э. КАРСКІ.

грамад, а так сама ўсіх беларускіх бежэнскіх камітэтаў. Такім чынам ўвесь гэты ўсенародны сход быў голасам ўсёй Беларусі, як „расейскай“, так і нямецкай акупацый (бежэнцы).

Пастановы 1-шага Ўсебеларускага Зьезду сталі пэршым фундамэнтам новага Беларускага Статуту, дзеля таго, што яны ў першы чарод ясна устанаўлівалі ў межах беларускай зямлі рэспубліканскі лад, умацовывалі права народу на зямлю, падкрэсьлівалі жаданьне беларусоў прыймаць учасьце ў будучэй Міравой Нарадзе, патрэбавалі адбудаваньня разруйнованай старонкі коштам воеваўшых государстваў і вываду польскіх і, нагул варажых, войскаў з абшараў Беларусі. Зьезд у канцы сваёй працы выбраў з свайго складу Раду 1-шага Ўсебеларускага Зьезду, якая павінна была арганізаваць фактычную ўладу на Беларусі, калі дзеля гэтага наступіць адпаведны час.

Гэта пастанова і зьняла маску з твары нацыянальна-цярпімага бальшэвізму і... менскія бальшэвікі ноччу з 17 на 18 сьнежня (старога стылю) 1917 году разагналі Зьезд штыкамі і кулёмётамі, а глаўных дзяячоў Зьезду, — колькі дзесяткаў чалавек, укінулі ў сутарыны сваёй крэпасьці.

Гэты неслыханы ў гісторыі акт ўціску меў добрыя скуткі для беларусоў. Прэдстаўнікі Беларускага Ўраду, выбраляючыся патроху з бальшэвіцкіх турмаў, сталі вясьці сваю працу ў большэй часьці нелегальна і падняді агітацыю за незалежнасьць... ад бальшэвікоў і чужынцоў.

Тым часам бальшэвікі такім жа ганебным спосабам расправіўшыся з Украінскай Цэнтральнай Радай задумалі заключэньне міру на Нарадзе ў Берэсьці—Літоўскім.

Згодна з наказам Зьезду, нелегальны Беларускі Урад паслаў на Нараду ў Берэсьцье і сваіх дэпутатаў (якія змаглі папасьці туды толькі пад відам райцаў Украінскай Дэлегацыі), але перашкодзіць угавору ф.-Кюльмана з Троцкім беларускія дэпутаты спозьніліся.

Баючыся за свой лёс у Беларусі, бальшэвікі зусім спынілі працу блізка-ўсіх беларускіх арганізацый, асабліва ваенных; пасьля звароту беларусоў з пратэстам проці падпісаньня Берэсьцейскага Міру борацьба гэта прыняла вельмі востры характэр. На жаль у Пецябурзі зьявілася кучка особ — беларускіх хатніх палітыкаў, якая, зманеная грашовымі інтэрэсамі, зыйшлася з бальшэвікамі і стала яшчэ горэй псаваць працу сваякоў на бацькаўшчыне і навэт прадаваць іх.

Між тым падпісаньне Берэсьцейскай Умовы шыкавала дзеля Беларусі пашырэньне абшараў нямецкай акупацыі.

III.

Лёзунг бальшэвікоў „ні міру, ні вайны“ немцаў не спалохаў, а ні. Паход іх на Дзвінск адгукнуўся




ФРАГМЭНТ БЕЛАРУСКАГА МУЗЭЯ „Таварыства імя Ф. СКАРЫНЫ“.

Гурток беларускіх дзеячоў, паставіўшых сабе мэтай бараніць беларускую культуру ад ўсіх ўнутрэнных і ўнешніх ворагаў, маніцца сабраць ўсе друкі, якія толькі калі-колечы былі на Беларусі, чы служылі беларускаму народу. Падаваемы фрагмэнт дае адну невялічкую часьцінку беларускіх часопісей, якіх ад 1864 да 1920 году было ў беларусоў болей за шэсьцьдзесят выданьняў (тута-ка дваццаць восем).

ў Менску і 19 лютага менскія бальшэвікі, абьявіўшы ўсенародна аб тым, што яны не выежджаюць і іх ўлада—моцна, як ніколі, самі між тым, подобна да француза ў у 1812 гаду, сталі грузіць на вазэ і сані свой ( і чужы) скарб. А 7-ай гадзіне ў вечэры ўся бальшэвіцкая ўлада ў Менску, вядомая да гэтай пары пад назвай „Рады Народных Камісараў Заходняй Вобласьці і Фронту“ разлеглася ў колькіх вагонах на вагзалі Маскаўскай чугункі, і, акружыўшы сябе кулёмётамі і броневікамі, ваевала з чугуначнай адміністрацыёй за хучэйшую... адпраўку іх ў Смаленск.

Ў гэту пару беларуская ўлада ў месьці стала ужо легальнай. Яна жыва сабрала ўсе свае жывыя сілы, аслабаніўшы на волю ўсіх арештованых бальшэвікамі. Споўняючы Камітэт Рады 1-шага Ўсебеларускага Зьезду разам з Цэнтральнай Вайсковай Радай стаў займаць ўсе урадовыя будынкі, і, увайшоўшы ў сувязь з ўсімі дужэйшымі нацыянальнымі арганізацыямі нацыянальных меньшасьцяў, на ранку 20 лютага абвесьціў 1-шай Устаўнай Граматай сваю ўладу на ўсёй Беларусі.

21 лютага Споўняючы Камітэт Рады 1-шага Ўсебеларускага Зьезду, папоўнены прэдстаўнікамі жыдоў, палякоў, велікарасейцаў і літвіноў, утварыў першы урад пад назвай Народнага Сэкрэтарыяту, а сам, склікаўшы Раду Зьезду, прыняў на сябе заканадаўчыя функцыі.

Прабаваўшыя разьвернуць свою працу ў Менску польскія легіанеры, прызналі права бвларусоў, абрабаваўшы аднак колькі польных скарбніц на агульную суму больш за 12 мільёнаў рублёў.

Прызнаньне палякамі права беларусоў на Менск было болей угаворным ніж фактычным, што далей дало сябе чуць.

Між тым нямецкія уланы зближаліся да Менску. Беларуская улада, с кожным днём заваёвыўшая ўсё большы і большы ўплыў на жыхароў, пастанавіла застацца на мейсцы і чэкаць немцаў. Ўвайшоўшы ў Менск, першы нямецкі эшэлон быў ўрачыста спатканы палякамі. Толькі колькі гадзін пазьней адбылося пабачэньне немцаў з беларусамі, на якім беларусы заявілі немцам, што яны зьяўляюцца гаспадарамі краю і будуць абхозіцца з немцамі, як з гасьцямі.

На справі вышло іначэй. Пачыняючы ад 25 лютага 1918 г. ўлада беларусаў стала зьменьшацца, а хутка абмежэвалася толькі націанальна - прэдстаўніцкай і дарадчэй працаў. Што ж датычыць палякоў, то немцы адправілі іх спачатку з Менску ў Бабруйск, у раёні якога польскія легіоны знайходзіліса яшчэ колькі тыднёў, а потым і зусім абэзброілі і расфармовалі іх.

9 сакавіка 1918 г. Споўняючы Камітэт ІІ-гой Устаўнай Граматай абвесьціў асновы Беларускай Канстытуцыі, а 25 сакавіка Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, утворэнная з Споўняючага Камітэту і Рады 1-шага Ўсебеларускага Зьезду, ІІІ-цяй Устаўнай Граматай дэкляравала незалежнасьць



**М. А. САЛАВЕЙЧЫК.**

*Міністэр Жыдоўскіх Спраў.*

Радзіўся ў Коўні ў 1883 гаду. Скончыў у Жэнэві (ў Швэйцары) унівэрсытэт са званьнем доктара філёзофіі. Знаўца гісторыі Ізраіля, падаражаваў у Палестыну; аўтар колькіх твораў з біблейскай крытыкі і літэратуры.

Беларускай Народнай Рэспублікі ў межах, дзе пераважываючую лічэбнасьць (адносна да друхіх народаў) мае беларускі народ.

Зараз жэ аб сваіх Граматах Беларускі Урад паведаміў Бэрлін.

Ў адказ на гэтыя апошнія два акты Гэрманскі Рэйхсканцлэр даў знаць Народнаму Сэкрэтарыяту Беларусі, што Бэрлін разглядае Беларусь, як „часьць Савецкай Расеі“ і па Берэсьцейскаму Угавору бэз Ураду Леніна гэтае пытаньне сам вырэшыць не можэ: гэта значыць прызнаць новабудуемае Беларускае Госпадарства.

Пакуль у Менску знайходзілася другарадовая нямецкая ваенная улада, між немцамі і беларусамі вельмі часта выходзілі рожныя непаразуменьня, калі ж у травені месяцы ў Менск перэехала Галоўнае Камандаваньне 10-ай нямецкай арміі на чале з гэнералам О. фон-Фалькенгайнам, беларуская

справа стала заваёвываць ўсе болей і болей правоў, хутка ўзмацовывацца і ў летку 1918 году беларусы, ужэ як дзержаўцы краю, атрымалі і права мець сваіх райцаў пры кожным нямецкім камэнданце, права разьездаў, учасцьця ў вырэшэньні немцамі ўсіх гаспадарчых, культурна-прасьветных і прафэсыяльных пытаньняў і так далей.

На жаль, немцы цягнулі з развязаньнем пытаньня аб фармаваньні беларускага войска, ў чым потым яны самі вельмі каяліся, як каюцца і цяпер.

На гэты час стала мажлівым зьвязаць духоўна Вільню з Менскам, старую акупацію з новай, што так сама вельмі памагало справі; а тут яшчэ шырока расцвілі беларускія друкі: ў Менску залажыліся газэты „Вольная Беларусь“, „Беларуская Зямля“, „Беларускі Шлях“, „Крыніца“, штомесячнік „Варта“, ў Вільні — „Гоман“, „Беларуская Ілюстраваная Часопісь“, штомесячнік „Крывічанін“, у Слуцку — „Родны Край“. Сваім чарадом ўнутрэную беларускую працу падтрымлівалі беларускія закардонныя газэты: ў Кіеві — „Беларускае Слова“, „Беларускае Эха“, ў Адэсі „Беларусы ў Адэсі“; толькі большэвіцка - правакатарскія: маскоўская „Дзянніца“ і петраградскі „Чырвоны Шлях“ запраданыя „народнаму камісару“ нацыянальных спраў, якому-сьць С. Джугашвілі, гаманілі, што менскія беларусы працуюць на указцы немцаў(!) і палякоў(!).

Проці такой брэхні гаворыць ясна усё вышэй напісанае.

Апроч дзержаўнай працы ў краі, будуючыя Беларускую Народную Рэспубліку установы,— Рада і Народны Сэкрэтарыят, развярнулі за гэты час і вялікую закардонную працу. Яшчэ ў летку 1918 г. былі устаноўлены дыплёматычна - консульскія прэстауніцтва Беларускай Народнай Рэспублікі на Украінэ— ў Кіеві і Адэсі, на Доншчыне — ў Растові, на Паўночным Каўказі — ў Стаўрополі, на Літве — ў Вільні і навэт у „Савецкай Расеі“ —у Маскве. Ў восень таго ж году былі арганізованы надзвычайныя міссыі, якія зрабілі падарожы: ў Кіеў— да Ураду гэтмана П. Скоропадскага (пры Міністру Загранічных Спраў В. Дорошэнко), ў Варшау — да Ураду Рады Рэгенцыйнай, ў Вільню — да Ураду Літоўскай Тарыбы, а так сама ў Бэрлін — да Гэрманскага Рэйхсканцлэра і Фракцый Рэйхстагу, затым у Копэнгагу (ў Данію) і ў Бэрн (ў Швэйцарыю). Місыя Беларускага Ўраду арганізованая дзеля падарожы да бальшэвікоў ў Маскву не выехала з-за небэзпекі невярнуцца да хаты жывымі...

Гэтыя падарожы не далі адразу дзеля беларускага дзержаўнага будаўніцтва рэальнай карысьці, аднак жэ яны мелі добрыя вынікі для ўнутрэнай працы беларусоў пад нямецкай акупацыёй. Пасьля іх немцы сталі ісьці на вялікія ўступкі, сталі даваць навэт часьць грошы з акупацыі на беларускія нацыяльныя справы, а ласьне, на утварэньне і утрыманьне І-шай беларускай гімназіі ў Буцлаві, на настаўніцкая курсы ў Менску, на Беларускі Вучыцельскі Інстытут, на беларускую школьную інспэкцыю і т. д.



Палкоўнік

**О. К. БЕНЬЯ-ШЭВІЧ.**

Былы член Літоўскіх Місый у Балтыцэ, кавалер крыжа „За Бацькаўшчыну“. Радзіўся ў 1893 г. ў Ашмяншчыні; ўсю вайну прабыў на фронці, 8 разоў ранен; быў членам Маскоўскай Дзержаўнай Нарады ў 1917 гаду; цяпер, падаўшыся ў адстаўку, выехаў з Літвы зусім.

9 кастрычніка 1918 году Рада прыняла новы Статут аб павялічэньні свайго складу—ліком болей за 100 членаў (з іх членаў І-га Усебеларускага Зьезду было не болей 40) а крыху пазьней новы Статут аб Народным Сэкрэтарыяце, які ад гэтай пары стаў ужэ звацца Радай Народных Міністраў.

Гэрманская Рэвалюцыя схіснула погляды немцаў з таго кірунку, на які стала нямецкае Галоўнае Камандаваньне ў кастрычніку 1918 году. Утвораныя пасьля бэрлінскага пераваpоту салдацкія рады ў гэрманскай арміі затрымалі справу развіцьця беларускай дзержаўнасьці: ўладу атрымалі людзі новыя, не знаёмыя с краем.

Яны далі можнасьць, як актыўным ворагам беларускага руху, так і скрытым анты-беларускім элемэнтам,—а, ласьне, зьмяніўшым свае погляды на нацыянальную справу жыдоўскім бундаўцам і даўно заслужыўшым благую славу велікарасейскім эс-эрам,

якія страцілі свае палітычныя пазыцыі ў Расеі яшчэ у 1917 гаду. У канцы лістапада яны, дзякуючы скасаваньню цэнзуры, літэральна сталі цкаваць цёмны і несвядомы элемэнт на ўсё тое, што было утворэна бэларусамі і клікаць да парахаваньня.

Гэныя выступленьня далі думку беларусам чэкаць небэзпэкі ў разе неспадзеванага выйсьця немцаў з Менску, і разруйнавалі надзеі зьберагчы беларускія дзяржаўныя установы ў цэласьці. Беларускага войска не было, немцы адыйшлі ад Воршы, надыходзілі бальшэвікі з іх „надзвычайкамі" і кітайскімі адрадамі, пасовывалася на Беларусь фізычная сьмерць.

У пачатку сьнежня беларускія установы вынесліся з Менску. На момэнт ўлада ў месьці і ні-бы-то у краі перайшла да бундоўцаў і эс-эраў-маскалёў, якія зараз-жэ былі зліквідаваны бальшэвіцкім ваенна-рэвалюцыйным камітэтат, захапіўшым „чырвоны Менск" 8 сьнежня.

Беларусоў спаткаў лёс украінцаў: яны пакінулі сваю сталіцу пад напорам крывавай маскоўкай сілы.

IV.

Пакуль у Менску ўсе бэз вынятку беларускія арганізацыі абьедналіса каля Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, у Вільні, гэтым духоўным цэнтру беларусоў, а так сама і цэнтру тагочаснай нямецкай акупацыі, — Віленская Беларуская Рада (якая мела сваіх прэдстаўнікоў і у Радзе Рэспублікі) арганізавала падмогу. Маючы мэтай, калі, не абараніць Беларускае Госпадарства, то хоць бы утрымаць у рамкам дзяржаўнасьці беларускую справу, Віленская Беларуская Рада увайшла ў хаўрус з Літоўскай Радай (Тарыбай), каб з дапамагай будуемага літоўскімі дзеячамі на заходзі былога Вялікага Князьства Літоўскага—новага дзяржаўнага арганізму абараніць хоць невялікую часьціну беларускай зямлі.

Гэтай часьцінай была ўся тэрыторыя старой нямецкай акупацыі, а ласьне — беларускія часьці Віленшчыны, ўся Городзеншчына і Аўгустоўшчына.

Грунтам гэтага беларуска-літоўскага хаўруса было: абарона новым Літоўскім Гаспадарствам цэласьці заходніх беларускіх этнагрaфічных граніц ад Польшчы: Аўгустова, Беластоку, Хорашчы, Бельску, Белавежы, і, зразумела, Городна, Саколкі.

Па угавору з літвінамі, Віленская Беларуская Рада паслала ў Літоўскую Раду шэсьць сваіх прэдстаўнікоў, а адзін з членоў Рады Міністраў Беларускай Народнай Рэспублікі ўступіў у Літоўскі Урад на пасаду Міністра Беларускіх Спраў. Хаўрус гэты фактычна стаў істнаваць з момэнту выезду Беларускага Ураду з Менску, пасьля чаго гэты Урад не пачынаў сваёй афіцыяльнай працы ў Вільні, чы ў Городні, а перайшоў на гэнай тэрыторыі на неафіцыяльнае пражываньне.

За то ўся праца Беларускага Ураду цяперака напраўлена была переважна на палітычную акцыю заграніцай, куды Ўрад паслаў сваіх прэдстаўнікоў — як на Украіну, так і ў Гэрманію, ў Чэхію, ў Парыж.

Беларуска-літоўскі хаурус між тым разьвіваўся. Вільню захапілі бальшэвікі. Літоўскі Урад перэехаў у Коўну. Міністэрства Беларускіх Спраў перэнеслося ў Городно, скуль яно мела ўплыў на ўсю беларускую тэрыторыю нямецкай акупацыі, і, калі бы гэтаму ўплыву не перашкодзілі бы — з аднаго боку неаднальковасьць палітыкі кожнай з нямецкай салдацкіх рад, з другога-слабасільле нямецкага Галоўнага Камандаваньня на ўсходзі і з трэцьцяга заборчая палітыка польскіх легіонаў, разлёгшыхся на беразі Нарава (якія хутка і пасунуліся на Беларусь, ні бы то абараняючы яе ад бальшэвікоў), то беларуская праца у гэтай часьці Госпадарства дасягнула бы поўнага свайго росквіту.



**Князь і. І. Гедымін-Біржанскі-Клаўсутіс.**

Дырэктар Агульнага Дэпартамэнту Дзержаўнага Кантролю.

Радзіўся ў 1862 гаду, скончыў Пецярбурскі Унівэрсытэт, старэйшы літоўскі дзеяч. Да сучаснай пасады быў Старшынёю Дзержаўнай Камісыі па рэгістрацыі страт ад вайны. Вядомы як супрацоўнік першых літоўскіх газэт „Aušra" і „Varpas". Знаўца беларускай справы.

У пачатку студзеня 1919 году на вуліцах Городна ужэ можна было бачыць адкрыта беларускае нацыянальнае войска. У кожным з паветовых местаў былі ужэ беларускія паветовыя камісары. У Городні першы раз пачалі выдавацца беларускія газэты, як „Беларускі Народ“ (на двух мовах: беларускай і расейскай) і „Бацькаўшчына“. Пачалі расьці беларускія гурткі, разьвівацца нацыянальны тэатр. Пачалася паступовая беларусізацыя абшару, які на працягу цэлага веку нёс на сябе адначасна цiжар і польскага панаваньня і русыфыкацыі.

Сьвяткуючая Антанта, зразумела, не прыбрала часу падумаць аб тым, што можэ прынясьці Літве і Беларусі ганебны выхад немцаў у Гэрманію і аддача на расправу палякам ўсяго ўсходу. У канцы красавіка гэта апошняе настолькі дало сябе чуць, што ў рукі разузданых польскіх легіянераў папалі і Беласток, і Бельск, і Саколка, і Городно, і Вільня.

Палякі пайшлі далей на ўсход, займаючы беларускія абшары. Міністэрства Беларускіх Спраў зноў перэнеслося, ужэ ў Коўну; гэтае места стала цяпер часовой сталіцай неакупаванай Літвы, у граніцах якой не аставалося болей ні воднага кавалачка беларускай зямлі. У Городні палякі разаружылі І-шы Беларускі поўк. Члены Беларускага Ураду, пражываўшыя да гэтага часу ў Городні, зусім перэехалі загранiцу. У польскай акупацыі асталося толькі нэколькі чалавек, працаваўшых да гэтай пары ў беларускіх арганізацыях пад відам заядлых палёнофобаў і прыяцелёў немцаў, а цяпер прымазаўшыхся ужо і да польскіх агентаў.

Зараз жэ, па меры заняцьця Беларусі палякамі, ўсе турмы ў Городні, ў Варшаві, ў Беластоку сталі запоўняцца арэштованымі беларускімі дзеячамі, як і ў часы панаваньня бальшэвікоў. Сталі зачыняцца ўсе беларускія школы, настаўнікі гуртам вывозіліся ў Кракоўскія табары, паднялася страшная полёнізацыя краю. Арэшту і ганеньню з боку польскай жандармэрыі падлеглі навэт члены Беларускай і Літоўскай Рад.

Перэнёсшыяся ў Коўну, установы Міністэрстерства Беларускіх Спраў пачалі там беларускую працу спачатку, утварыўшы аднак нелегальную сувязь з прэдстаўнікамі Міністэрства ў польскай акупацыі. Беларускае войска пачало ў Коўні арганізавацца на нова, і ў летку 1919 гаду ужэ зьявілася, як асобная частка, на фронці: на паўночным-пехота і на паўдзёным - конніца. Разьвілася шырокая інфармацыя усіх прэдстаўнікоў чужых дзяржаў у Літве, асабліва Амэрыкі, Пранцыі, Англі аб палажэньні беларускай справы; ўсе прэдстаўнікі ад Міравой Нарады з Парыжа, якія наезджалі ў Коўну (а да красавіка ў Городно) атрымлівалі ад Міністэрства Беларускіх Спраў ўсестароньнее асветленьне беларускага пытаньня.

Між тым і Вэрсальскі Мір быў падпісан. Ўсе заходы беларусоў спачатку аб абароні Беларусі ад палякоў, а затым аб устанаўленьні людзкіх адносін палякоў да акупаваных абшараў (калі польскія легіёны йшлі на ўсход па распараджэньню маршала Фоша!?) ні да чога не прывелі.

(Канец будзе ў чарговым нумэру).

Я. В—ко.

# 1-ШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ ЗЬЕЗД.

1917 — 1919.

Два гады таму назад у сьцюдзеным сьнежні ў в е с ь беларускі народ зыйшоўся на вагромністы сход ў стары Менск. Як ніколі раней, першы раз за 1000 гадоў патомкі крывічоў, радзімічаў, дрэговічаў, а мо і ятвягаў зыйшліся ў сваім старасьвецкім цэнтру на вольнае вечэ.



**Менскій Местовы Тэатр,**
дзе 5—18 сьнежня 1917 году адбыўся 1-шы Ўсебеларускі Зьезд, якога правы нароўні правом Беларускага Устаноўчага Сойму.

1872 пасланца прыбыло на слаўны ад гэтай пары 1-шы Ўсебеларускі Зьезд. Гэты лік беларускіх дэпутаў быў зарэгістраваны ў працягу Зьезду ад 5 да 17 сьнежня. А колькі людзей яшчэ не даехала! Колькі прыехала пасьля... разгрому Зьезду бальшэвікамі. Гэта быў самы вялікі н а ц ы я н а л ь н ы збор народных прэдстаўнікоў, які калі бачыла на сваём абшары не толькі Беларусь, але ўся былая Расея, ўся Эўропа.

Адзін народ зыйшоуся тады, самы дэмакратычны з ўсіх народаў сьвету, селянскі беларускі народ.

Зыйшоўся і пастанавіў адрадзіць сваю былую дзержаўнасьць, сваю Селянскую Рэспубліку, незалежную ні ад польскіх паноў, ні ад крывавай Масквы.

Такая пастанова не прыйшлася па сэрцу тым, хто пасьля цара сеў на шыю вялікарасейцаў: яны разагналі Ўсебеларускі Зьэзд і обьявілі яго кіраўнікоў ворагамі рэвалюцыі.

Праз два гады, цяпер, у сьнежню 1919 году, прыйшлі на Беларусь новыя гаспадары—польскія паны.

І так сама разагналі беларусоў, укінуўшы кіраўнікоў іх у вострог.

Вось ў якіх муках ўзмацоўваецца нацыянальная сьвядомасьць, расьце любоў да той зямлі, якая так густа паліта і потам і крывёй; родныя магілы клічуць да еднасьці проці паневерцаў.

Вялікім коштам купляе беларус сваю сьвядомасьць: бэз кніг, бэз школ, бэз волі, бэз зямлі, бэз хлеба.

— Хто я? — пытае ён сам сябе.

Не — маскаль, бо ён мяне столькі гнэмбіу; не паляк, бо панскі легіанэр пье з мяне апошнюю кроў.

Чы не беларус я часам, хто ад 1-шага Ўсебеларускага Зьезду не выходзіць з турмаў?!

Т. Л—овіч.

—о—о—о—

## БЕЛАРУСКА-ЛІТОЎСКАЕ ЖЫЦЬЦЁ.

### Дзьве сьмерці.

Лездь толькі вестка аб ганебным забойстві ў польскай акупацыі Старшыні Беларускай Земскай Управы Эўгенія Курлова дайшла да Коўны, тут, перэнёсшы і ўсю вайну, і рэвалюцыю, і „городзенскую эпоху“, і польскі палон — 11 сьнежня памёр ад хворасьці сэрца былы беларускі Камэндант Городны і Городзенскага вокругу Леанід Калугін.

Скольki працы і сілы прыходзіцца класьць беларусам у барацьбе за . . . інтэлігенцыю. З вялікім трудам удаецца адваёвываць яе ў маскоуцаў і палякоў, якія так многа пагубілі нашых лепшых людзей, альбо выкарысталі іх дзеля сваіх мэтаў.

Бэз параўнаньня, аглянёмся назад.

Маскоўцы ўзялі ад нас: Дастаеўскага, Булгарына, Камісаржэўскую, Качалава, Лаппу, Бялыніцскага -Бірулю, Пічэту, Глінку...

Палякі: Адама Міцкевіча, Касьцюшку, Арэшчыху, Нарбута, Ярашэвіча, Матэйку, Манюшку, Корсакоў, Язэпа Пілсуцкага...

Апошняе трохлецьце многа навернула да нас нашых сваякоў назад. Безупынная барацьба абаронцаў нашага адраджэньня гэтаму памагла.



**ЛЕАНІД КАЛУГІН.**

Былы Беларускі Камэндант Городна і Городзенскага вокругу, райца Міністэрства Беларускіх Спраў.

Радзіўся ў 1876 гаду, скончыў Маскоўскую Ваенную Школу ў 1902 г.; ваеваў у Карэі і Маньжурыі з японцамі, а ў апошняй вайне з аўстрыякамі.

Памёр 11 сьнежня 1919 г. ў Коўні, дзе 13-га урачыста і пахован.

Курлоў і Калугін аднэ з тых, каго мы заваявалі ў апошнія гады.

Першы з іх —у сярэднім веку чалавек, —вядомы літэратар і паэта, за поўгода да сьмерці, не баючыся ніякага злога слова, пачаў ужэ пісаць і па беларуску, рэдагаваць беларускі па - духу тыднёвік „Голас Городна“ і . . . прыняў сьмерць ад тых, хто выкарэняе гаспадароў краю.

Колькі памыяў на яго вылівалі рожныя ліхадзеі, хрыстапрадаўцы і дэвоткі. Курлоў—памёр адрадзіушымся, шчырым беларусам і верным нашай гаротнай Айчыне грамадзянінам.

Другі—Калугін, яшчэ ў Менску пачаў туліцца да беларушчыны, а ў красавіку 1919 года ужэ за-

служыў стаць беларускім Камэндантам нашай роднай Городзеншчыны

Ён навэт добра не гаварыў па беларуску· Ён верыў, што не уселякі гаворачы „Госпадзі, Госпадзі — ўвойдзе ў царства нябеснае, а толькі той, хто творыць волю Айца“ . . .

Дзеля Калугіна гэтай воляй—была воля Беларусі.

З пасады Камэнданта новы гаспадар Городна —польскі гэнерал Фалевіч—выслаў Калугіна ў Берасьцейскі лагер дзеля ваеннапалонных...

З дарогі „высланец“ пісаў Міністру Беларускіх Спраў:

— Не бядуйце, уцяку і буду ў Коуні!!!

І уцёк. А тут, ў Коуні ужэ на пасадзі Райцы Міністэрства Беларускіх Спраў, перэнёсшы, столькі гора, сэрцэ бедака не вытрымала здзеку над Бацькаўшчынай і мук беларуса і супакоілась на векі...

На 43 гаду жыцьця!

Пацешайцеся ненасытныя ворагі!

Здымі шапку, беларус!

М. З.

—о—о—о—

## Да Бацькаўшчыны.

Ад Менска роднага далёка,
Тут мовы нашае ня чуць,
Сяджу я ноччу адзінока,
А думкі ў галаве снуюць.

*

Я ўздумаў пра сваю краіну—
У паднявольнай старане:
Даўно, даўно яе пакінуў
І нейк сумна стала мне;

*

Успомніў вёсачку малую
І хатку ўрошшую ў зямлю,
Дзе я пакінуў дарагую
Матулю, бацьку, ўсю сямью.

*

Успомніў, як даўней з братамі
Мы дружна, лагадна жылі,
Ідучы вечарам, часамі,
Вясела гутарку вялі...

*

Там сёстры пэўне ўспамінаюць,
Як мала ў хаце я пажыў,
І песьню сумную спеваюць:
„Як бацька коніка карміў...

*

„Як мамка есьцікі варыла,
„Як на вайну сын ад‘езджаў,
„Сястрыца хустачкі рубіла,—
„А ён усіх іх пацешаў“...

*

Спевайце-ж сестранькі пра брата,
Што ехаў біцца на вайне...
І я цяпер папаў у салдаты
Ў далёкай, беднай старане.

*

Калі ж, калі я зноў убачу
Старонку родную сваю...
Эх, годзе думаць, бо заплачу.
Альбо сумную запяю...

14.IX.19. АНАТОЛЬ С—ЦКІ.
Коўна.



Маёр

**А. РУЖАНЦАЎ.**

Камандзер N-ага Беларускага Батальёну.

Былы Правіцель Спраў Смаленскай Архіўнай Камісыі; грамаздкі дзеяч Ўсходняй Беларусі. Кавалер крыжа „за Бацькаўшчыну“.

### ПРАВЫ ЧЛЕНОЎ ДЗЕРЖАЎНАЙ РАДЫ.

Члены Дзержаўнай Рады, як і члены былой Дзержаўнай Думы у Расеі, маюць такія правы:

1. Членам Дзержаўнай Рады абэзпэчэна нетыкальнасьць асобы, памешканьня і карэспадэнцыі.

2. Обмежэваньня свабоды, устаноўленныя ваеным і асадным станам, не датычаць іх.

Прыметка. За якія бы то ні было праступкі член Дзержаўнай Рады можэ быць прыцягнуты да адпаведнасьці толькі за згодаю апошняй.

3. Члены Дзержаўнай Рады маюць права патрэбаваць ад міністэрстваў і другіх адміністрацый-

ных устаноў ва ўселякі час разьясненьня з мэтай інфармацыі аб працы іх.

4. Члены Дзержаўнай Рады маюць права бэзплатна карыстацца літоўскімі дзяржаўнымі чугунками, а так сама шляхамі адміністрацыйных устаноў мейсцовага самаупраўленьня.

о

# КРОНІКА.



## Арэшт Вацлава Ластоўскага і другіх.

Член Дзержаунай Рады Вацлаў Ластоўскі арэштованы 17 сьнежня польскай акупацыйнай уладай на Беларусі. Разам з ім арэштованы яшчэ беларускія дзеячы: А. Уласаў, П. Бадунова, Н. Козіч і Я. Мамонька.

## Угодкі Беларускіх Зьездаў.

Месяц сьнежэнь зьяўляецца вельмі шчасьлівым на беларускія зьезды. Так ў 1917 гаду быў як ведама І-шы Ўсебеларускі Зьезд; у 1918 адбыўся Зьезд Городзеншчыны, стварыўшы Городзенскую Управу, а за нім паветовы стварыўшы Городзенскую Раду. Апроч таго ў тым самым месяцы, і гаду адбыліся яшчэ беларускія зьезды ў Дзятлаві і Бельску. Толькі у гэтым гаду, дзякуючы польскай акупацыі, беларускія зьезды спыніліся. Распушчэна навэт Беларуская Рада ў Менску, — гэта значыць што там будуецца Польская Народная Рэспубліка (Рэч Паспалітая).

## Прыезд украінскага дыплёмата.

Па дарозе на Украіну ў Коўну прыезджаў у пачатку сьнежня украінскі дыплёмат В. Залезняк, які адведаў так сама і Міністра Беларускіх Спраў. Прадстаўнік братняга народу прабываў у беларускім гуртку праз чатэры дні і азнаёміўшыся з беларуска-літоускімі ідэаламі выехаў праз Ведэнь да Атамана Петлюры.

## Арэшт Прэдстаўнікоў Міністэрства Беларускіх Спраў.

У Городзеншчыне і Беласточчыне акупацыйная ўлада арэштавала прэдстаўнікоў Міністэрства Беларускіх Спраў. Нікаторыя з іх сідзяць у Беластоцкім лагеры дзеля ваеннапалонных (ў тым ліку і кабеты,)-аб лёсі рэштных нічога не чутно.

## Уцёкшыя з польскіх турмаў.

За лістапад і сьнежэнь з польскіх тумаў (з Беластоку і Городна) уцякло шмат беларусоў. Колькі з іх — былыя афіцэры І-шага Городзенскага Беларускага поўка — дабраліся шчасьліва да Коўны і ужэ атрымылі свае пасады ў Літоўскай Арміі, як у беларускіх, так і у чыста-літоўскіх частках.

## Яшчэ 30 наград беларусам.

Прыказам Прэзыдэнта Гаспадарства ад 30 кастрычніка 1919 г. за храбрасьць у баёх зноў атрымалі крыж „За Бацькаўшчыну“ такія беларусы вайсковыя: старшы лейтэнант П. Ласінскі, стрэлкі: Ю. Балтрушыс М. Кібіцкі, М. Вайцехоўскі, Ю. Раманаў, М. Ромбовіч, А. Мазоль, В. Юткель, Г. Шолом, А. Рамейко, Х. Сільнікер, Я. Дубіцкі, Я. Печулайтіс Я. Рынкевіч, Э. Васільеў, Я. Сухадольскі, П. Владышэўскі, Я. Радзюш, Б. Печура, Я. Жук, М. Бэрнатовіч, К. Рандэйко, Н. Кравацкі, П. Пупель, Я. Гелажун, В. Баер, І. Ягелло, Я. Брэзінскі, К. Ермак і А. Каханоўскі

## Паварот М. Сьлежэвіча.

Былы Премьер (2-га і 4-га Габінэтаў) М. Сьлежэвіч вярнуўся з Чэхіі і астаецца ў Коўні, як прысяжны адвокат. Ніякага учасьцьця ў урадовых установах п. Сьлежэвіч не прыймае.

## Расфармаваньне Беларускага Вайсковага Стала.

Прыказам Галоўнакамандуючага ад 9 лістапада 1919 г. Беларускі Вайсковы Стол расфармован. Начальнік яго-капітан В. Казлоў ізноў назначан афіцэрам зьвязі пры Гэнеральным Штабі дзеля рыхтаваньня адносінамі Міністэрства Краёвай Абароны з Міністэрствам Беларускіх Спраў і войскам.

## Пажарная справа ў Літве.

З ініцыятывы члена Дзержаўнай Рады — беларуса Д. Семашкі у Літве арганізуецца Государственае Пажарнае Таварыства, маючае мэтай паставіць пажарную справу на належную высокасьць. П. Семашко зьяўляецца знаўцаю гэтага фаху, прайшоў спэцыяльныя курсы ў Швэйцарыі, быў начальнікам пажарнай дружыны на Днепроўскім Заводзі, а ў часе акупацыі ў Вільні камандаваў, як местовай, так і ахвотніцкай, а затым і нямецкай ваенай дружынамі адначасна; да таго многа гадоў быў членам Дзержаўнага Пажарнага Таварыства.

## Яшчэ адна дрэнная мапа.

Выданая Міністэрствам Заграничных Спраў Беларускай Народнай Рэспублікі — мапа Беларусі зусім дрэнная. У гэтай мапе незразумела чаму аддаюцца кускі беларускай зямлі Польшчы, захопліваюцца часткі ад літвіноў і летгальцаў, а так сама зусім - непатрэбныя абшары велікарасейцаў. Дзіўна, як гэта людзі ваюють проці чужых забораў, а сваіх апэтытаў не бачаць. Не гледзючы на этнаграфічны прынцып (мапа гэта зданьню праф. Э. Карскага не адпаведае), граніцы Беларусі ў гэтай мапе зроблены неасьцерожна і з бакоў стратэгічнага і эканамічнага. Аўтар гэтай мапы — можэ паціснуць руку вядомаму І. Габрысу, які наадварот пад літоўскія абшары захапіў беларускія землі (гл. № 2 „Часопісі“).

## Так сама — „палітыка“.

У гэтым гаду ў Коўні вышло дзевяць літоўскіх каляндароў - кніжэк на 1920 год, з іх восем выдадзена рожнымі культурнымі установаміі арганізацыямі і адзін Міністэрствам Зьямельных Спраў. Як водзіцца, у такіх гадавіках даюцца абгляды палітыкі, грамадзкай працы, літэратуры і інш. Надзіва можэм заўважыць , што аб беларусах, беларуска-літоўскіх адносінах і хаўрусе нідзе німа ні воднага радка, — як бы беларусоў нібыло, німа і ня будзе не толькі ў Літве, але на ўсім сьвеце. Так сама „палітыкай — не говорачы горшага слова.

## Беларусы на Літве.

Апроч беларускай этнаграфічнай тэрыторыі, шмат беларусоў жыве ў Літве і сярод літвіноў. Праўда, працэнт іх вельмі невялікі, яле ўсё ж яны становяць значную граманду у Расіенах, Таўрогену, Вількаміры, а асабліво ў Новаалександроўскім павеце, дзе ў нікаторых воласьцёх зусім не чуваць літоўскай мовы. Тое ж можна сказаць і аб Ілукстскім павеце Курляндшчыны, дзе стаяць нашы войскі. Часьць гэтых беларусоў — стараверы, але маскоўскімі сябе не лічаць. Беларуская нацыянальная сьвядомасьць паміж імі пачала зьяўляцца нідаўна. На іх зьвярнула увагу Міністэрства Беларускіх Спраў.

ВЫДАВЕЦТВА і РЭДАКЦЫЯ: Стол Друку Міністэрства Беларускіх Спраў. КоУНА. Вуліца Адама Міцкевіча, 13а.

БЕЛАРУСКІ КАМЭНДАНТ места ГОРОДНО, за тым
Райца Міністэрства Беларускіх Спраў

КАПІТАН

# ЛЕАНІД КАЛУГІН,

перанёсшы вайну і польскі палон, — пасьля недоўгай, але цяжкай хворасьці памёр 11 сьнежня 1919 г. а 10 гадзіне раніцы і пахован у суботу, 13 сьнежня на праваслаўных могілках у Коўні.

Гэту смутную для беларусаў весьць абвешчае

МІНІСТЭР БЕЛАРУСКІХ СПРАЎ.

## Пачтовая скрынка.

(Пачатак гл. ў №№ 1 і 2).

15. Менскім рэдактаром. Цікава было бы знаць, колькі і якія беларускія кнігі выданы ў Менску, чы у Вільні за час ад 1 сьнежня 1918 году, а не які і дзе адчыніўся „беларускі рэстаран“! Вось якой абвесткі шукае вока закардоннага беларуса ў менскіх вестках. А дзеля таго, што не ведама які нумэр трапіць заграніцу, абвестку гэту трэба друковаць што дня.

16. М. Гарэцкаму. Часьць кніг атрымалі. Дзякуем. Прышыкуйце, альбо прышлеце нам яшчэ календар „Н. Н.“ за 1910 і 1911 г. г., камплекты: „Вольнае Беларусі“ за 1917 г., „Грамадзяніна“, „Беларускага Жыцьця“, — кнігі: „Зажынкі“, абодва зборнікі песень А. Грыневіча, ўсю „Маладую Беларусь“, „Матчын Дар“ і ўсе „Сцэнічныя Творы“ менскага выданьня.

17. Ўсім, хто хочэ вучыцца па беларуску. Карыстайцеся такімі кнігамі: Букваром (граматкай) Александры Смолічыхі, „Родным Краем“ (часьці I і II) і Граматыкай Б. Тарашкевіча. Іх можна набыць найхучэй ў Вільні: на Вострабрамскай вул. 9, чы Завальнай вул., 7.

18. Я. Карнейчуку. Цяпер часьцей замест беларускага гімна „А хто там ідзе“, ужываецца новы „Адвеку мы спалі“, — ён болей падыходзіць да сучаснага жыцьця.

19. „Фотографу“ ў Менску. „Скажы гадзіна, — колькі дадзена?“ . . . А мо проста самагонкі нахляўся!? . . .

20. Беларусам заграніцай і ваеннапалонным. „Часопісь“ і беларускія выданьня „Т-ва імя Ф. Скарыны“ высылаюцца дарма толькі арганізаваным гурткам, а не паасобку. Арганізуйцеся ў грамады, чы культурна-прасветныя гурткі.

21. Рукапісы, якія пасылаюцца ў „Часопісь“, Рэдакцыя мае права папраўляць і зьменьшаць па меры патрэбы; благія творы назад не вертаюцца.

## Абвестка.




Коўна. Вількамірская шаса, 41 б.

Загад Таварыства вельмі просіць ўсіх нашых землякоў і прыяцелёў дастаўляць нам, калі ў каго акажуцца непатрэбнымі, якія беларускія газэты з Вільні, Менску, Смаленску, чы Рыгі, чы іншыя выданьня на беларускай мове, чы на другіх мовах аб беларусах; а так сама сучасныя расейскія газэты, якія пішуць аб нашай справі, чы старыя і старасьвецкія кнігі.

ЗАГАД.

061460

# Шануйце беларускую кнігу!

Прачытаўшы не кідай, а пакажы суседу! Калі чаго не зразумееў, спытай у Рэдакцыі!




Друкарня А. Бака і Х. Манкеса. Коўна.